


# ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ

Абласная незалежная масавая газета

Выдаецца з лістапада 1917 г.

Серада, 24 лістапада 1993 г.
№ 150 (19285) Цана 15руб.


# Падзеі. Факты. Каментарыі

## ПРАФСАЮЗЫ — ЗА РЭФОРМЫ, АЛЕ РАЗУМНЫЯ...

“Прафсаюзы Беларусі пацвярджаюць прыхільнасць да сацыяльна-арыентаванай рыначнай эканомікі з рознымі формамі ўласнасці, умацавання самастойнай фінансава-крэдытнай сістэмы, перагляду дзяржаўнай падатковай палітыкі ў мэтах стымулявання таваравытворцаў, забеспячэння рэальнай эканамічнай інтэграцыі з іншымі краінамі”. Гэтыя словы ўзяты з пастановы прэзідыума савета Федэрацыі прафсаюзаў, які прааналізаваў шляхі выхаду з крызіснай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, абмяркоўваемай на сесіі Вярхоўнага Савета.

Прафсаюзы, падтрымліваючы неабходнасць кардынальнай карэкціроўкі эканамічных рэформ, разам з тым лічаць недапушчальным і далей перакладваць на плечы працоўных вынікі памылак і пралікаў у ажыццяўленні рэформ. Прапануемая поўная лібералізацыя цэн, увядзенне адміністрацыйных механізмаў абмежавання, а па сутнасці “замарожванне” заработнай платы ва ўмовах некантралюемай інфляцыі, прывядуць да далейшага збяднення людзей. Прафсаюзы лічаць, што рэгуляванне аб’ёму сродкаў, якія ідуць на спажыванне, можна ажыццяўляць толькі эканамічнымі метадамі, абавязкова захоўваючы ўзгодненыя суадносіны паміж ростам цэн і зарплаты.

Прафсаюзы выступаюць супраць увядзення свабодных цэн на ўсю сельскагаспадарчую прадукцыю, супраць адмены калектыўным і фермерскім гаспадаркам дзяржаўных датацый і субсідый. Неабходна захаваць дзяржаўнае рэгуляванне цэн на хлеб, малако, тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі.

Прэзідыум савета ФПБ падтрымлівае прапанову аб стварэнні вышэйшага эканамічнага савета, які выпрацаваў бы экстранныя меры па выхаду з крызісу. Прафсаюзы гатовы ўдзельнічаць у рабоце новага органа.

У заключэнне гаворыцца, што далейшыя дзеянні прафсаюзаў будуць вызначацца тым, “наколькі Вярхоўны Савет і ўрад улічаць іх прапановы ў праграме па выхаду з крызісна-эканамічнай сітуацыі, рэалізуюць патрабаванні аб правядзенні датэрміновых выбараў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь”.

Белінфарм.



Усё часцей прыходзіцца задумвацца рабочым людзям над тым, як жыць і быць далей. Гэтыя клопаты хвалююць і расточніка Цімафея Цімафеевіча Міхайлоўскага з другога цэха арэнднага прадпрыемства “ВІЗАС“ (былы завод заточных станкоў). Адпрацаваў ён тут ужо больш дваццаці год і па праву лічыцца адным з самых спрактыкаваных работнікаў. На сваім гарызантальна-расточным станку з праграмным кіраваннем Міхайлоўскі выконвае фінішныя аперацыі і заўсёды забяспечвае высокую якасць дэталей.

На здымку: Ц.Ц. Міхайлоўскі.

Фота Г. ЖУКАВА.

## НАШЫ ЧЫТАЧЫ АТРЫМЛІВАЮЦЬ ДАДАТКОВЫ ВЫПУСК ГАЗЕТЫ

ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Іншы раз вы сярдуеце на нас за тое, што газета друкуе шмат рэкламных матэрыялаў. Безумоўна, не ўсім яны патрэбны. Але рэклама сёння для кожнага выдання — галоўная крыніца даходаў, якая дазваляе фарміраваць танную падпісную цану і наогул выжываць рэдакцыйным калектывам у рыначнай стыхіі.

І ўсё ж мы не маглі не пакінуць вашы пажаданні без увагі. У жніўні, як вы ведаеце, наша газета павялічыла перыядычнасць і пачала выходзіць чатыры разы на тыдзень. У дадатковым выпуску па пятніцах змяшчаецца тэлепраграма, рэклама, аператыўная інфармацыя. Вы не маглі не заўважыць, што ў суботніх васьміпалосных нумарах рэклама амаль адсутнічае. Такім чынам дадатковы выпуск кампенсуе тую плошчу, якая займалася раней рэкламай і тэлепраграмай.

Паверце, у наш час не так проста выпусціць дадатковы нумар на кожным тыдні. Але мы пайшлі на гэты крок, узяўшы ўсе расходы на сябе. Мы гатовы выслухаць, шаноўныя чытачы, вашы новыя пажаданні і прапановы.

Нагадваем, што падпіска на “Віцебскі рабочы” прадоўжана да 15 снежня. Вас чакаюць у кожным аддзяленні сувязі, можаце звяртацца таксама да паштальёнаў і грамадскіх распаўсюджвальнікаў друку.

Квітанцыя аб падпісцы на “Віцебскі рабочы” на першы квартал 1994 года — ваш страхавы поліс на 100.000 рублёў.

## Малако абараняецца цэнамі

Здаецца, размовы аб масавым вывазе з Беларусі ў суседнія рэгіёны дыетычнага прадукту з-за яго нізкага кошту на нейкі час спыняцца. Таму што ў рэспубліцы з 22 лістапада ў сярэднім у два разы павышаны цэны на малако, кефір, ражанку і ў тры разы — на смятану, вяршкі, тварог і тварожныя вырабы. Напрыклад, паўлітра малака і кефіру без кошту пасуды цяпер будзе каштаваць 50 рублёў. За кілаграм смятаны 25-працэнтнай тлустасці трэба будзе плаціць замест чатырохсот 1200 рублёў, 20-працэнтнай — 1050, за кілаграм тварагу 9-працэнтнай тлустасці вышэйшага сорту 900 рублёў.

Для параўнання: масквічы, напрыклад, за літр малака і кефіру плацяць у сярэднім 240 рублёў, кілаграм смятаны — 1221, а тварагу — 1219 рублёў. Але, як паведамілі ў Дэпартаменце цэн пры Дзяржэканомплане рэспублікі, чарговае падаражанне толькі часткова пакрывае затраты вытворчасці гэтых дыетычных прадуктаў. Відаць, не за гарамі той час, калі ў магазінах зноў памяняюцца цэны на іх. Зразумела, у бок павышэння.

Белінфарм.

## Экспрэс — інфармацыя

*Як паведаміў карэспандэнту агенцтва РІД старшыня Бюджэтна-фінансавай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Раман Унучка, аклады спікера і прэм'ера складаюць, па апошніх даных, па 346 тысяч 700 рублёў. Абодва яны ідуць па самым высокім, 28-м разрадзе. Аклад першага віцэ-спікера складае 297 тысяч 200 рублёў (26 разрад). Работа старшынь пастаянных камісій Вярхоўнага Савета ацэньваецца 25 разрадам, намеснікаў — 24, сакратароў — 23, а народных дэпутатаў на пастаяннай аснове — 22. Штомесяц усе гэтыя адказныя асобы атрымліваюць 30 працэнтаў прэміі да акладу і 1,7 працэнта — да адпачынку (так званыя лячэбныя). Застаецца дадаць, што ў час работы сесіі ВС народныя дэпутаты атрымліваюць дадаткова па 1,5 мінімальнай зарплаты.*

**Таджыкістан можа аказацца адзінай рэспублікай былога СССР, каму будзе дазволена застацца ў рублёвай зоне "новага тыпу", гэта значыць, з расійскімі дэнзнакамі ўзору 1993 года. Улічваючы катастрафічныя вынікі грамадзянскай вайны ў гэтай краіне,. Расія, як высветлілася ў ходзе нядаўняга візіту ў Душанбе міністра замежных спраў А.Козырава, не настойвае на такіх жорсткіх умовах, якія былі прад'яўлены Казахстану і Узбекістану.**

*На левым беразе ракі Інгуры працягваецца канцэнтрацыя грузінскіх урадавых войск і бронетэхнікі, а на правым — умацоўваюць свае пазіцыі і ўзводзяць дадатковыя інжынерныя збудаванні абхазскія войскі. Кампетэнтныя назіральнікі не без падстаў выказваюць думку аб тым, што нават адна ўмела падрыхтаваная правакацыя можа стаць прычынай кровапраліцця.*

**Магчымым спыненнем паставак прадукцыі палёў і ферм дзяржаве прыгразілі працаўнікі аграпрамысловага комплексу Гродзеншчыны. Гэты крок не выключаны, калі іхнія прапановы па вываду сельскай гаспадаркі з глыбокага крызісу не будуць выкананы.**

*У Віцебск чакаецца прыбыццё кіраўніка выдавецтва нінбургскай гарадской газеты “Дзі Харкэ” Клауса Каля. Ёсць надзея, што творчыя і дзелавыя кантакты паміж выданнямі абодвух гарадоў умацуюцца.*

**Нападзенне на народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь В.Даўгалёва не застаецца па-за ўвагай грамадскасці. У сродках масавай інфармацыі выказваюцца розныя версіі на гэты конт.**

Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў, рэспубліканскіх і замежных газет.

## Аб сярэднямесячнай заработнай плаце рабочых і служачых

Дзяржкамстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэднямесячная заработная плата рабочых і служачых у студзені — кастрычніку 1993 года склала 41329 рублёў і ўзрасла ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 11 разоў. У кастрычніку яна склала 99879 рублёў (у верасні была 67331 рубель).

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу.

**Алег САЛТУК**

*Палітлірыка*

### ГАНДЛЯРАМ

Паратунку ад думкі няма,
Не гандлюеш — значыць,
калека.
Дызатое колькі дзярма
Напладзіў канец гэтага веку!
Гандляры,
гандляры,
гандляры —
Не зрабіць без іх нават і кроку.
Да якой жа трываць іх пары,
Дзе набрацца для іх аброку?
А яны вось гандлююць усім
Ад цукерак да прастытутак
І сцвярджаюць:
— На тым стаім, —
У адказ на людскія пакуты.
Сарамаціць дзялкоў? Дарма!
Самі мы патураем іх здзеку.
Паратунку няма ад ярма.
І ўсё менее Чалавека.

### ГНІЛЬ

І зімы гнілыя, і леты,
І душы гнілыя ў людзей.
Гніе ўжо не толькі паўсвету,
А свет.
І ніякіх надзей.

### «НАСТАЎНІКІ»

Нас вучаць, як жыць,
з-за мяжы.
І нават па тэлефоне...
Распяты народ на крыжы
З цвікамі ў мазольных
далонях.
І слухаеш ты, вялікі народ,
На жаль, у былым вялікі,
Як ім падпявае прадажны
зброд
Фальшывы, абжэрны,
двулікі.

### РЭКЛАМА

Рэкламуюць прысмакі
сабакам —
У замежных бляшанках
кармы.
А народ перайшоў
“на хлеб з такам”,
Небарака бяспраўны, нямы...

## І кулямётныя стужкі ў прыдачу

16 лістапада ў час аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікі аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю ў Мінску і Мінскай вобласці сумесна з віцебскімі калегамі знайшлі ў кватэры і гаражы трох жыхароў Оршы цэлы арсенал агнястрэльнай зброі: 2 кулямёты МГ-42, аўтамат ПКШ, 4 карабіны, 4 гранаты Ф-1, пісталет-ракетніцу, 612 вінтовачных патронаў, 300 патронаў да аўтамата ПКШ, 531 кулямётны патрон у стужках. Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа.

Белінфарм.

◆ ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# ПАМЯРКОЎНАЯ ПАЛІТЫКА ЦІ ЗНЯВАГА НАРОДА?

Не так даўно пазваніў мне адзін з падпісчыкаў і ўважлівых чытачоў "Віцебскага рабочага" і прапанаваў тэму для чарговага артыкула. Тэма не нейкая там мясцовая, што датычыць вузкага кола людзей, а вельмі шырокая, актуальная, на мой погляд, як для Беларусі, так і для многіх іншых рэспублік былога Савецкага Саюза.

— Ці можаце вы ўявіць сабе такую сітуацыю, — гаварыў мой субяседнік. — Прыязджае, скажам, у Злучаныя Штаты Амерыкі міністр замежных спраў Беларусі або нават кіраўнік нашага ўрада ці Вярхоўнага Савета і пачынае вучыць, як ім жыць, пачынае падказваць: трэба, маўляў, датэрмінова перавыбраць вашых кангрэсменаў. А потым, да ўсяго іншага, раіць кіраўнікам ЗША падумаць аб уступленні ў сумесны абарончы саюз краін СНД. Не ўяўляеце? Напэўна, нават усміхаецеся, лічыце мае словы нейкай недарэчнасцю? А вось дзяржаўны сакратар Злучаных Штатаў у адносінах да Беларусі штосьці падобнае сабе дазваляе. А нашы сродкі масавай інфармацыі пераказваюць гэта з нейкім замілаваннем, беларускія дзяржаўныя мужы захапляюцца дапамогай, якую паабяцаў замежны госць у тым выпадку, калі мы будзем паводзіць сябе прыкладна, выконваць яго парады. Падумайце вось і напішыце, што гэта — памяркоўная палітыка, як любіць гаварыць адзін наш лідэр, ці знявага народа?..

Размова тая была доўгая і цяжкая. Пасля я яшчэ раз уважліва перачытаў паведамленне Белінфарма аб знаходжанні дзяржсакратара ЗША ў нашай рэспубліцы. Ашчаслівіў Уорэн Крыстафер сваім візітам усяго на некалькі гадзін. І за гэты час, як сказана ў афіцыйным паведамленні, "дзяржсакратар яшчэ раз пацвердзіў, што Злучаныя Штаты зацікаўлены ў развіцці дэмакратычных працэсаў у Беларусі, іх праяўленнем павінны стаць датэрміновыя, вясной будучага года, выбары ў Вярхоўны Савет. Крыстафер заявіў, што ЗША гатовы аказаць тэхнічную дапамогу ў іх правядзенні".

У гэтым жа паведамленні гаворыцца і аб новай ініцыятыве прэзідэнта Біла Клінтана, згодна з якой "Беларусь можа супрацоўнічаць з усімі краінамі НАТО ў такіх напрамках, як, напрыклад, сумеснае планаванне, сумесныя вучэнні, а таксама рабіць іншыя крокі па ўмацаванню супрацоўніцтва з Паўночнаатлантычным саюзам"..

Як усё расцэньваць — палітыкам відней. Тым больш, што Рэспубліка Беларусь яшчэ раней абвясціла сваё імкненне да поўнага нейтралітэту, а НАТО, як вядома, — саюз ваенны. Таму захапляцца тым, што заморскія дзяржаўныя мужы практычна дыктуюць нам сваю волю зусім не варта. Бо не дарэмна ж просты люд моцна задумваецца: памяркоўная гэта палітыка ці знявага народа? І справа зусім не ў тым, які ў нас Вярхоўны Савет — добры ці не вельмі. Пры любых абставінах вырашаць гэта не камусьці з-за акіяна, а менавіта яму, беларускаму народу.

Ды штосьці з гэтым народам у апошнія гады ніхто не лічыцца. І не толькі з беларускім. Не лічыцца з расіянамі, украінцамі, жыхарамі многіх іншых рэспублік былога магутнага Савецкага Саюза. Дайшло да таго, што нейкія там душманы ва-ўсю калашмацяць расійскія заставы на граніцы з Афганістанам. Кітайскія аматары лёгкай нажывы бясконца затрымліваюць грамадзянскія расійскія судны нават у нейтральных водах. Нашы войскі ядзерную зброю знішчаюць, а яны, за акіянам, гатовы скупіць усю гэту смертаносную начынку: ім, бачыце, яна вельмі патрэбна...

І не дарэмна не жадаюць нашы людзі мірыцца з усёй той эканамічнай і палітычнай знявагай, якая перапоўніла іх жыццё ў апошнія гады. Але што крыўдзіцца на палітыкаў заморскіх, калі нават свае, родныя, і не нейкія там партакраты, а вучоныя-інтэлігенты нярэдка не ведаюць, што яны робяць, што гавораць. Вось яскравы прыклад. У Слаўгарадзе, паведамляе "Народная газета", жанчына-маці пяцярых дзяцей паскардзілася С.С.Шушкевічу, што ёй вельмі цяжка купіць дзіцячае адзенне. А Старшыня Вярхоўнага Савета на гэта адрэзаў: маўляў, трэба было думаць раней, калі збіралася раджаць дзяцей.

Што і гаварыць, такога абыходжання, такіх адносін, такога жыцця працоўны народ Беларусі не мог уявіць нават у кашмарным сне. Абрабавалі яго, як ліпку, а цяпер, бачыце, і слова не скажы. А людзі ж не нейкія там істоты бязродныя, яны памятаюць, якімі былі іх гарады і вёскі пасля Вялікай Айчыннай вайны, памятаюць, што засталося ад народнай гаспадаркі. Аднак усё адбудавалі, усё аднавілі ў неверагодна кароткі тэрмін. Заморскія палітыкі здзіўляліся і нават за галовы хапаліся: яны ж разлічвалі, што Савецкі Саюз не зможа паўстаць з руін доўгія дзесяцігоддзі.

А ён не толькі паўстаў, але і пайшоў наперад. Няхай не вельмі шыкоўнае, аднак жа і жыллё паўсюдна штогод будавалі, новыя заводы і фабрыкі ўзводзілі, крочыла наперад навука, развівалася культура. Цяпер вось людзі ацанілі хвалёныя замежныя фільмы, якія запаланілі нашы экраны, з задавальненнем паглядзелі б свае, "дрэнныя", ды толькі ў нашых работнікаў культуры цяпер няма сродкаў, каб свае фільмы ствараць.

Не стала сродкаў на будаўніцтва грамадскага жылля, не хапае іх нават на належнае ўтрыманне і ацяпленне таго, што пабудавана раней. Не можа з'ездзіць маці да дзяцей, бо кошт праезду аднаго кіламетра аўтобусам дасягнуў 25 рублёў. І гэта, кажуць, яшчэ не мяжа. Катастрафічна расце смяротнасць нават ад элементарных хвароб, бо людзі не могуць набыць лякарствы як па прычыне іх недахвату, так і з-за шалёнай дарагоўлі. Многія пенсіянеры адмаўляюцца нават ад радыёкропак, бо аплаты гэтых элементарных паслуг сувязістаў не вытрымлівае сямейны бюджэт тых, хто аддаў свае сілы і лепшыя гады жыцця нялёгкай працы на карысць народа.

Вось так здолела наша роднае кіраўніцтва пусціць усё пад адхон нават без вайны, занядбаць чалавека працы пад слоўны перазвон аб яго дабрабыце. Цяпер ужо знайшліся тэарэтыкі, якія даказваюць, што савецкія людзі быццам бы не таго сорту, што і на тое яны не здатныя, і на гэта не здольныя — маўляў, чаго ад іх чакаць: не будуць кіравацца парадамі з-за мяжы, ніколі не выйдуць на цывілізаваны шлях.

Памятаеце, пасля чарнобыльскай аварыі тон у лячэнні пацярпеўшых ад радыяцыі задаваў амерыканскі доктар Гейл. Нічога не скажаш — выдатны спецыяліст, дзякуй яму за дапамогу. Але ж куды падзеліся савецкія спецыялісты? Тое, што рабіў амерыканец у сярэдзіне васьмідзесятых, савецкія ўрачы не горш рабілі яшчэ ў пачатку шасцідзесятых. Гэта думка не дае спакою, калі чытаеш у "Комсомольской правде" артыкул Ярослава Галаванава "Тоня Грышына і яе Чарнобыль".

Дык вось: Тоня Грышына ў 1962-м у адным з акадэмічных інстытутаў атрымала смяртэльную дозу радыяцыі. І звычайныя савецкія ўрачы зрабілі ёй перасадку коснага мозга, паставілі дзяўчыну на ногі. І не толькі паставілі — Антаніна Дзмітрыеўна Грышына актыўна працуе, абараніла доктарскую дысертацыю. "Застаецца сказаць самае галоўнае, — піша Яраслаў Галаванаў. — Гісторыя сусветнай медыцыны тых год не ведала выпадку, калі чалавек, які атрымаў такое моцнае абпраменьванне, застаўся б жывы і, поўнасцю аднавіўшы працаздольнасць, не меў бы ніякіх слядоў перанесенай вострай прамянёвай хваробы".

А падобных прыкладаў з розных галін навукі і тэхнікі, прытым у розных рэспубліках былога Саюза, ведаючыя людзі могуць прывесці сотні, тысячы. Ды куды ж усё гэта падзелася, чаму ўсе тыя былыя рэспублікі ператварыліся цяпер у краіны "трэцяга свету", з якой нагоды, як сказаў адзін высокі расійскі дзяржаўны дзеяч, нас вучаць жыць розныя "заезджыя бабёшкі"? І што гэта ў нас за памяркоўная палітыка, калі простыя людзі лічаць яе знявагай усяго народа?

Э. ДАМАРАЦКІ.

Шуміліна.

◆ У НАШЫХ СУСЕДЗЯЎ

## Завод мяняе прафесію

Цяпер, калі эканамічны крызіс усё часцей і часцей бярэ ў свае абдымкі цэлыя калектывы і галіны, кожная крупінка вопыту вельмі карысная. На юбілеі віцебскага завода "Мегом" прысутнічаў В.Грачоў — дырэктар завода "Тыконд", які ўваходзіць у склад пскоўскага ВА "Рубін". Да выказаных ім думак, на наш погляд, варта прыслухацца.

— На прадукцыю радыёэлектроннага прафілю стаўку больш не робім, — прызнаўся Валерый Георгіевіч. — Гэта галіна перажывае цяпер не лепшыя часіны. Калі ўсё будзе працягвацца так, а ў карэнныя змены неяк ужо і не верыцца, то як кандэнсатарнай фірме нам засталося існаваць некалькі месяцаў.

На заводзе зразумелі, што ў данай сітуацыі ім ніхто не дапаможа, разлік можа ісці толькі на ўласныя сілы. Пачалі шукаць выйсце.

Калектыў першым у Расіі асвоіў цагельна-панельнае домабудаванне. Паміж кандэнсатарамі і дамамі мала агульнага, і давялося пачынаць, як гаворыцца, з нуля. Запусцілі лінію па выпуску чарапіцы, тым больш, што сыравіна прама пад нагамі — пясок. Зманціравалі свой мясаперапрацоўчы цэх.

Але ўсе гэтыя вытворчасці не маглі заняць тых, хто вызвалілся з асноўных цэхаў. А задача менавіта ставілася захаваць рабочыя месцы, не пакідаць людзей без крыніц існавання. Пачалі абмяркоўваць іншыя варыянты. Сышліся на думцы арганізаваць вытворчасць керамікі. І паставілі гэта на шырокую аснову. Цяпер штодзённы даход ад керамічных вырабаў — мільён рублёў. Не ад добрага жыцця адкрылі на прадпрыемстве швейны цэх. У заводскую касу адсюль паступае каля 3 мільёнаў рублёў у месяц. Ды і дзесяткі людзей маюць работу.

Новыя вытворчасці патрабуюць значных сродкаў. Пачалі шукаць зарубежных інвестытараў. І першы крок ужо зроблены: да канца года пачне дзейнічаць сумесная са шведскай фірмай вытворчасць па выпуску ацяпляльных катлоў для катэджаў. Тавар патрэбны, заявак на яго шмат. Значыць, можна нарошчваць вытворчасць.

Жыццё ставіць перад калектывамі складаныя праблемы. Прасцей за ўсе скардзіцца на цяжкасці, чакаць нейкіх рашэнняў зверху. Пскоўскія радыёэлектроншчыкі, ламаючы ўсе схемы, пачалі структурную перабудову. Гэта чакае і многія нашы прадпрыемствы. Не так даўно віцябляне спаборнічалі са сваімі суседзямі, ахвотна перадавалі свой вопыт, займалі іх метады. Рыначныя адносіны, прызнаюць многія спецыялісты, у суседзяў ідуць больш шпаркімі крокамі. Дык, можа, нешта пераняць і сёння?

Нядаўна на сустрэчы з прафсаюзным актывам старшыня абласнога Савета У.Кулакоў падкрэсліваў, што час настойліва дыктуе: патрэбна структурная перабудова, хаця два гады ўжо згублены. У.Кулакоў назваў тры галіны, якія вельмі церпяць, — нафтахімія, радыёэлектроніка і машынабудаванне. Тыя ж праблемы, як бачна, і ў нашых суседзяў. Значыць, вельмі важны каштоўны вопыт. Знойдуцца і такія, хто заявіць: загубім галіну, нашу нядаўнюю гордасць. Не будзем гаварыць высокія словы, сёння размова ідзе аб тым, каб выжыць. Давайце прыглядзімся да тых, хто нешта шукае.

А. ПАЎЛОВІЧ.

◆ ГЛЫБОЦКІЯ НАВІНЫ

### Кіно не па кішэні

Закрыўся да вясны адзіны ў Глыбокім кінатэатр "Радзіма". Прычына даволі празаічная: няма грошай на яго ацяпленне.

Не працуюць кінаўстаноўкі і ў многіх сельскіх дамах культуры. Сюды проста не могуць давезці кінафільмы з-за адсутнасці бензіну. Так што, каб паглядзець кіно, давядзецца глыбачанам ездзіць у абласны цэнтр або ў Мінск, калі будзе на чым.

### Калі прадзед — паэт

Прадзед галоўнага энергетыка вытворчага аб'яднання "Мэбля", што ў Маладзечне, Алега Аркадзьевіча Тарыкава быў сялянскім паэтам. Звалі яго Сцяпан Тарыкаў. Пакінуў пасля сябе рукапісны зборнік.

І вось, як кажуць, "гены загаварылі". Унук Алег Тарыкаў напісаў пра сваю і дзедаву радзіму, Глыбоччыну, гістарычную кнігу "Зарніцы ў глыбінях азёр".

Прэзентацыя гэтай кнігі з удзелам аўтара адбылася днямі ў другой школе Глыбокага.

### Выйграў той, хто не атрымаў грошы

Менавіта так можна гаварыць пра тых грамадзян, якія здавалі садавіну на Азярэцкі вінзавод. Тады ў саўгаснай касе не хапала сродкаў з усімі разлічыцца.

Цяпер жа, каб не заставацца больш даўжніком, гаспадарка разлічваецца са здатчыкамі натуральным прадуктам — віном. Такі спосаб разліку прыйшоўся вельмі многім па душы. Шкада, што яблыкі скончыліся.

Ул. САУЛІЧ.



Шануюць на адным са старэйшых прадпрыемстваў Віцебшчыны — Багушэўскім спіртзаводзе ветэранаў. Да іх тут адносіцца і Еўдакія Васільеўна Атрашкевіч, якая аддала вытворчасці трыццаць год жыцця. Працавала саладоўшчыцай, мыйшчыцай, солададрабільшчыцай, тэхнолагам, а сёння яна — апаратчыца працэсу рэктыфікацыі спірту. На заводзе зараз паспяхова працуюць многія яе былыя вучні.

На здымку: Е. В. Атрашкевіч (справа) і маладая работніца Валянціна Буракова.

Фота Г. ЖУКАВА.

## Дапамогуць капіталісты?

Усё больш у нас становіцца такіх прадпрыемстваў, якія не могуць працаваць на поўную сілу. Не па сваёй віне трапіў у гэты спіс і Новалукомльскі завод керамзітавага гравію. Прычына? Яна даволі тыповая для нашых прадпрыемстваў: значна зменшыўся рынак збыту прадукцыі. Краіны так званага блізкага замежжа ад яе адмовіліся. Набываюць толькі прадпрыемствы і арганізацыі Рэспублікі Беларусь. А такіх не вельмі многа.

І, як звычайна, тое, што не ўмеем ці не хочам выкарыстаць мы ў сябе дома, заўважаюць за мяжой. Так здарылася і з новалукомльскім керамзітам. Зацікавіліся гэтым будаўнічым матэрыялам прадпрымальнікі з Фінляндыі. Туды пастаўлены ўжо першыя 4000 кубаметраў керамзітавага гравію. А як справа гэтая пойдзе далей, пакажа час..

Магчыма, выйсці з глыбокага крызісу нам дапамогуць не доўгія дэбаты на сесіях Вярхоўнага Савета, розныя франты і рухі, а нашы былыя палітычныя ворагі — капіталісты?

(Наш кар.).

# Манумент будзе адноўлены

Помнік героям Айчыннай вайны 1812 года ў Полацку хутка павінен быць адноўлены. За справу ўзяліся двое маладых беларускіх бізнесменаў — Вячаслаў Васюхін, прэзідэнт фірмы "Інтэрбел", і Юрый Тарасаў, прэзідэнт фірмы "Белкамтэк". Ім, карэнным палачанам, вельмі захацелася, каб была адноўлена гістарычная рэліквія.

Як вядома, тры аднолькавыя манументы былі ўстаноўлены на месцы самых гарачых бітваў з напалеонаўскімі захопнікамі — на Барадзінскім полі, у Смаленску і ў Полацку. і ўсе гэтыя помнікі занесены ў каталог ЮНЕСКА.

Праект адноўленага манумента будзе гатовы ўжо ў пачатку 1994 года. Ён, як і арыгінал, будзе адліты з чыгуну на адным з прадпрыемстваў Расіі ці Прыбалтыкі. Усе затраты бяруць на сябе фірмы.

А. ВЕРАС.

◆ *ЮБІЛЕІ*

# ПЕРШАЯ ВЫШЭЙШАЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ

**Віцебскаму дзяржаўнаму педагагічнаму інстытуту — 75. З гэтай нагоды рэдакцыя папрасіла яго рэктара, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Беларусі Віктара Ніканавіча Вінаградава адказаць на некалькі пытанняў.**

**— Паважаны Віктар Ніканавіч! Адна са старэйшых ВНУ Беларусі — Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут, які Вы даўно ўзначальваеце, адзначае сваё 75-годдзе. Раскажыце, калі ласка, нашым чытачам, калі, з якога падмурка пачаўся яго шлях. Карацей — крыху гісторыі.**

— Віцебскі педагагічны інстытут створаны ў 1910 годзе спачатку як настаўніцкі, які быў у той час першай і адзінай на Беларусі навучальнай установай падобнага тыпу. Для яго стварэння Віцебск быў выбраны невыпадкова. Пад націскам педагагічнай грамадскасці ў канцы XIX ст. царскі ўрад стварае спецыяльную камісію, якая абследавала многія беларускія гарады з мэтай заснавання на Беларусі універсітэта. Камісія прыйшла да высновы, што лепшыя ўмовы для гэтага мае Віцебск. Аднак па шэрагу абставін універсітэт не быў створаны, а замест яго — настаўніцкі інстытут.

У 1918 г. Віцебскі настаўніцкі інстытут быў рэфармаваны ў педагагічны і стаў, такім чынам, першай навучальнай установай паслякастрычніцкай Беларусі.

У даваенныя гады інстытут стаў значным цэнтрам падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў. Былі створаны добра абсталяваныя кабінеты і лабараторыі. Працавалі кваліфікаваныя выкладчыкі. Інстытут аказваў вялікую дапамогу Віцебскаму, Полацкаму, Аршанскаму і Лепельскаму педтэхнікумам, школам вобласці. Выкладчыкамі інстытута былі падрыхтаваны і выдадзены некалькі зборнікаў "Вучоных запісак", метадычных дапаможнікаў "У дапамогу настаўніку" і інш.

Пасля вызвалення Віцебска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў інстытут узнавіў сваю працу ў 1944 годзе.

За гады свайго іcнавання інстытут падрыхтаваў звыш 31 тысячы настаўнікаў агульнаадукацыйных школ. Яго выпускнікі плённа працуюць на ніве адукацыі ў розных кутках Беларусі і краін СНД. Многія з іх адзначаны высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі, маюць ганаровыя званні, з'яўляюцца членамі Саюзаў мастакоў, пісьменнікаў Беларусі. Сярод выпускнікоў больш за 150 вучоных, 77 з якіх пасля абароны кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый працуюць у родным інстытуце.

**— А зараз такое пытанне: чым жыве інстытут сёння, якія факультэты прадстаўлены яго студэнтам, што новага адбылося ў навучальным і навуковым працэсах?**

— Сёння Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут — буйны цэнтр падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў для нацыянальнай школы. На дзесяці факультэтах рыхтуюцца настаўнікі па 14 спецыяльнасцях. На дзённым аддзяленні займаюцца 3,5 тысячы студэнтаў, на завочным — 2 тысячы.

На 30 кафедрах інстытута выкладчыцкую і навуковую работу вядуць 455 выкладчыкаў, у тым ліку 18 прафесараў і дактароў навук, 218 дацэнтаў і кандыдатаў навук. У 1991 годзе ў інстытуце адкрыта аспірантура па спецыяльнасцях: тэорыя і гісторыя педагогікі, беларуская мова, беларуская літаратура, руская мова, руская літаратура, методыкі выкладання чарчэння, выяўленчага мастацтва, працоўнага навучання і інш. У інстытуце ў цэлым здавальняючая матэрыяльна-тэхнічная база, працуе навукова-даследчая лабараторыя асваення, рэканструкцыі і аховы жывёльнага свету Беларускага Паазер'я, 5 музеяў, вылічальны і тэлевізійны цэнтры, выдавецтва. Бібліятэка інстытута налічвае каля 500 тысяч тамоў кніг і падручнікаў.

Кадравы і навуковы патэнцыял кафедраў дазваляе даць будучым спецыялістам глыбокія і трывалыя веды па фундаментальных дысцыплінах, аб чым сведчаць добрыя вынікі работы выпускнікоў інстытута і афіцыйныя водгукі аб іх рабоце. Аднак, удасканальваючы падрыхтоўку настаўніцкіх кадраў для нацыянальнай беларускай школы, інстытут укараніў у навучальны працэс больш дасканалыя формы псіхолага-педагагічнай і метадычнай падрыхтоўкі (новыя курсы і спецсемінары, заняткі па народнай педагогіцы, бесперапынную педагагічную практыку і інш.). Пры школах інстытут мае фізіка-матэматычныя і біялагічна-хімічныя класы, гуманітарны ліцэй, педагагічныя класы і інш.

Пераглядаецца і ўзбагачаецца змест усяго навучання, які абумоўлены зменамі ў нашым грамадстве. Усё больш грунтоўная роля надаецца нацыянальнаму кампаненту ў навучальным працэсе, які вынікае з законаў Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі", "Аб мовах" і г.д.

Вучоныя-фізікі і хімікі інстытута распрацавалі новыя ўзоры сегнетаэлектрычных матэрыялаў, паст для металізацыі лакафарбавых кампазіцый і эмалей, якія прымяняюцца ў радыётэхнічнай і прыборабудаўнічай прамысловасці і абаронены аўтарскімі пасведчаннямі. Некаторыя з тэм даследаванняў па педагагічных і гуманітарных навуках зацверджаны на пасяджэнні рэспубліканскага каардынацыйнага савета і ўключаны ў план важнейшых навуковых даследаванняў у Рэспубліцы Беларусь.

Вынікі даследаванняў знайшлі шырокае адлюстраванне ў друку. Толькі ў 1992 годзе вучонымі інстытута надрукавана 443 назвы падручнікаў, вучэбных дапаможнікаў, манаграфій, навуковых артыкулаў у часопісах і метадычных матэрыялаў агульным аб'ёмам 387 друкаваных аркушаў. Сярод навуковых работ вучоных інстытута 24 асобныя выданні: 21 падручнік і дапаможнік для сярэдніх школ і вышэйшых навучальных устаноў, 3 манаграфіі.

**— Як жывецца выкладчыкам, студэнтам у наш так званы час пераходу да рынку?**

— У сувязі з пераходам да рынку інстытут унёс значныя карэктывы ў змест навучальнага працэсу. Поўнасцю рэарганізавана кафедра эканамічнай тэорыі. Кафедра педагогікі перапрацавала змест раздзела "Выхаванне". Калі ж гаварыць аб фінансавым становішчы інстытута, то яно дрэннае. Напрыклад, тэлевізійны завод "заломвае" такія цэны на ацяпленне навучальнага корпуса і аднаго інтэрната, спісваючы з рахунку інстытута грошы без нашай згоды, што мы часта не маем магчымасці выплаціць своечасова стыпендыю студэнтам і заработную плату выкладчыкам. Ды і заробкі ў выкладчыкаў невысокія. Навейшае абсталяванне, патрэбнае нам, калі і з'яўляецца на некаторых базах, каштуе так дорага, што выкупіць яго інстытут не мае магчымасці. Мы ж фінансуемся з дзяржбюджэту і сродкаў, якія выдзяляюцца на гэтыя мэты, недастаткова.

**— І ў заключэнне, Віктар Ніканавіч, якія перспектывы ў інстытута? Якім будзе ў ім навучанне ў далейшым: платным, бясплатным, якіх выкладчыкаў дасць ён сярэднім школам, вучылішчам, тэхнікумам?**

— Інстытут застаецца дзяржаўнай навучальнай установай і навучанне ў ім бясплатнае. Але ідзе пакрыху скарачэнне кантынгенту студэнтаў.

У сувязі са стварэннем беларускай нацыянальнай школы інстытут змяняе змест адукацыі ў адпаведнасці з законамі "Аб адукацыі", "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". Так, з 1 верасня выкладанне ўсіх дысцыплін на першых курсах пераведзена на беларускую мову.

Вялікая ўвага ў інстытуце надаецца вывучэнню гісторыі, культуры і традыцый беларускага народа. Распрацаваны і чытаецца на ўсіх факультэтах курс "Гісторыя Беларусі", спецкурсы "Этнаграфія Беларусі", "Гістарычнае краязнаўства", "Музычная культура Беларусі". Шырока вывучаюцца метады народнай педагогікі і магчымасці іх выкарыстання ў навучальна-выхаваўчым працэсе. Фальклорная лабараторыя актыўна збірае і вядзе картатэку беларускай вуснай народнай творчасці. Многае робіцца для вывучэння і захавання традыцый Віцебскай мастацкай школы.

Што датычыць платнага навучання, то ў гэтым годзе ўпершыню інстытут залічыў за кошт спонсарскіх альбо асабістых сродкаў 46 студэнтаў. Трэба сказаць, што імкненне абітурыентаў і іх бацькоў быць залічанымі з часткова прахаднымі баламі, не кажучы ўжо аб непрахадных балах, вялікае. Але магчымасці павелічэння кантынгенту студэнтаў нават за дадатковыя сродкі ў інстытута абмежаваныя. Не хапае выкладчыкаў, аўдыторый, інтэрнатаў і г.д.

**— Ці стане калі наш педагагічны інстытут універсітэтам?**

— Нам вельмі хацелася б гэтага. Заўважце, што з такой думкі і пачыналі сёняшнюю размову, гаворачы аб гісторыі нашага інстытута. Але Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь пакуль што не плануе пераводзіць абласныя педагагічныя інстытуты на статус універсітэта. У гэтым годзе пераўтвораны ў Беларускі педагагічны універсітэт Мінскі педагагічны інстытут. Міністэрства збіраецца вывучыць вопыт яго работы, а потым вырашаць пытанне аб рэарганізацыі іншых педагагічных інстытутаў у педагагічныя універсітэты. Будзем спадзявацца на лепшае.

**— Дзякуй, Віктар Ніканавіч. З юбілеем Вас, усіх выкладчыкаў і студэнтаў інстытута. Здароўя усім, поспехаў у працы і вучобе.**

◆ *ПРЭС-СЛУЖБА УУС ПАВЕДАМЛЯЕ*

## У кафэ на перакрыжаванні

Пачаўся зімовы сезон. Зноў замільгалі ў зводках паведамленні: "Грабежнік сарваў футравую шапку..." Прычым час злачынстваў такога роду не абмяжоўваецца вячэрнімі і начнымі гадзінамі, калі ні людзей, ні агнёў. Шапкі прымудраюцца зрываць сярод белага дня, дзенебудзь у ціхіх завулачках, дварах, пад'ездах. А апошні выпадак наогул не ўкладваецца ні ў якія рамкі: нахабства грабежніка пераўзышло ўсе межы.

Званок па тэлефоне "02" ва УУС паступіў каля 8 вечара: у кафэ "Сняжынка" па вуліцы Фрунзе — грабеж. У повара невядомы сарваў шапку і пусціўся наўцёкі, толькі яго і бачылі.

Аператыўны дзяжурны К.Крашчонак за долі секунды арыентуе групу на выезд. Р.Малец — інспектар-дзяжурны, О.Іваноў — памочнік дзяжурнага і міліцыянер-вадзіцель скемілі адразу, што далёка спрытнюгу не ўцячы, кафэ побач. Перапалоханая пацярпеўшая ў пустым кафэ не магла рэальна асэнсаваць здарэнне. Бо грабежнік ірвануўся да жанчыны, якая заканчвала работу на рабочым месце. Такія-сякія прыкметы далі ў рукі аператыўнікам патрэбную карту. Да таго ж "нюх" у бывалых супрацоўнікаў дзяжурнай часці на сваіх "кліентаў" ужо адпрацаваны. І доўга мільгацець па падваротнях грабежніку не давялося. Разам з футравай шапачкай непадалёк ад месца здарэння яго і схапілі.

Як кажуць, прафесіяналы справу ведаюць. А практыкавацца па грабяжах стаў, як высветлілася, рабочы энерганагляду. Далейшае ўдакладніць следства.

А нашым чытачам раім: каб міліцыі лягчэй было разблытваць клубок падобных злачынстваў паведамляйце ёй неадкладна. Менавіта па гарачых слядах рост раскрыцця грабяжоў найбольш высокі.

## Дзякуй, хлопчык!

Чацвёртакласнік сярэдняй школы № 6 дапамог аршанскай гарадской міліцыі. 13 лістапада цікаўнасць занесла яго пад мост, што на Дняпры, дзе ён убачыў поліэтыленавы мех, які прыцягнуў яго увагу. У мяшку скруцілася змейкай кулямётная стужка са 192 патронамі 7,62 калібра, там жа ляжалі яшчэ 208 такіх жа патронаў і 20 патронаў 5,45 калібра. Разумны хлопчык, ведаючы, чым пагражае такая небяспечная знаходка, не стаў "гуляць у вайну", а прыцягнуў знаходку ў міліцыю. Цяпер боепрыпасы нікому шкоды не прычыняць. А школьніку вялікае дзякуй ад аршанскай міліцыі.

## Лёд трэснуў

Лёд на вадаёмах яшчэ не моцны, а дзятва ўжо кінулася да зімовых забаў — катання на каньках. У Паставах гэта скончылася трагедыяй. 14 лістапада ўдзень шасцікласнік вырашыў пакатацца на каньках на возеры Задзеўскае. Слабы лёд не вытрымаў, і хлопчык утапіўся.

Бацькі, дарослыя! Папярэджвайце дзяцей, што наладжваць гульні на слабым лёдзе вельмі небяспечна. Гэта пагражае бядой.

Л. МІСУНА,

старшы інспектар прэс-службы УУС аблвыканкома.

# Замежныя інвестыцыі ў незалежнай дзяржаве

З 25 па 27 лістапада ў Мінску будзе праходзіць эканамічны форум з удзелам міжнародных фінансавых арганізацый, інвестыцыйных кампаній з краін СНД, Усходняй і Заходняй Еўропы, а таксама прадстаўнікоў Міжнароднага валютнага фонду, Сусветнага банка. Тэма форуму — замежныя інвестыцыі ў новай незалежнай дзяржаве.

Белінфарм.

# 37-34-40 СЛУЖБА ЗВАРОТНАЙ СУВЯЗІ Гарачы тэлефон

## Астравок у цэнтры горада

Менавіта невялічкім астраўком колішняй прыватнай забудовы ў нашым абласным цэнтры выглядаюць сёння домікі па вуліцы 3-я Чкалава. Іх усяго тут засталося чатыры ў палоне індустрыяльных шматпавярховак. Здавалася б, хай сабе жывуць у іх людзі, калі не замінаюць далейшай забудове Віцебска. Але ж і для людзей трэба ствараць элементарныя ўмовы. У новых шматпавярховых дамах яны ёсць, а вось пра жыхароў прыватных домікаў клапоцяцца тут не заўсёды.

— Ужо больш дзесяці дзён няма ў нас вады, — гаворыць адна з жыхарак гэтага "астраўка" Л.У.Печаніцына. — Сапсавалася калонка. А адрамантаваць яе не спяшаюцца. Кожны дзень звонім па тэлефоне 4-13-72 у водаканал і пакуль ніякіх вынікаў. Дапамажыце нам.

Ад імя сваіх суседзяў Людміла Уладзіміраўна скардзілася і на іншыя нязручнасці, якія церпяць жыхары гэтых дамоў. Дарэчы, у многім тут вінавата і ЖЭУ-8.

Што ж, будзем спадзявацца: спецыялісты службаў аблводаканала ўсё ж знойдуць час, каб адрамантаваць калонку па вуліцы 3-я Чкалава, а ЖЭУ-8 прыбярэ свой сметнік з-пад вокнаў прыватных домікаў. Будуць, магчыма, вырашаны і іншыя праблемы. Дарэчы, усё гэта сведчыць аб тым, што мы, не вырашыўшы асноўных сваіх глабальных праблем, ствараем мноства новых. І ўсе яны — ад пасіўнасці і абыякавасці.

## Укралі прыступкі

Так-так. Менавіта тыя тры драўляныя прыступкі, што змайстравалі ля ўвахода ў магазін № 137 па вуліцы Вастрацова, 12. І сёння вельмі цяжка трапіць у магазін састарэлым людзям. А калі пачнецца зіма, а з ёй галалёдзіца, снегапады?..

Напэўна, той, хто пакваліўся на гэты "скарб", сядзіць сабе і ў вус не дзьме. А для іншых — пакуты.

— У мінулым годзе я званіла па тэлефоне, — пачала размову адна з наведвальніц гэтага магазіна. — Тады не было прыступак. І вы, дзякуй, дапамаглі. Але вось гора. Днямі тыя драўляныя прыступкі, што тут змайстравалі, нехта проста ўкраў. Дапамажыце, калі ласка, яшчэ раз.

Як у апошнюю інстанцыю звяртаюцца людзі ў газету. І, безумоўна, ім хочацца дапамагчы. Мы, каб зрабіць гэта, часта звяртаемся да пэўных арганізацый і службаў. Крытыкуем, ушчуваем, просім. А як быць у даным выпадку? Прасіць злодзея, каб прынёс і паставіў гэтыя прыступкі на месца? Рабіць папрок у адрас гандлёвых арганізацый ці домакіраўніцтва, вінаваціць у нядбайнасці саміх жыхароў гэтага мікрараёна?..

Безумоўна, выйсце будзе знойдзена. Але зноў жа гэты, здавалася б, дробязны факт сведчыць аб тым, што душы нашы ўсё больш мялеюць для добрых спраў. А запаланяе іх сквапнасць, прага прыхватызаваць усё, што дрэнна ляжыць ці стаіць. Так, многа становіцца эгаізму, прагматызму, жорсткасці. І той, хто так свядома ці не свядома робіць, забывае, што менавіта ўсё гэта некалі наваліцца і на яго.

## "Алё, на провадзе інтэрнат..."

— Алё, гэта "гарачы тэлефон?.." Звоняць вам студэнты педінстытута, — пачулася ў тэлефоннай трубцы. Сваіх прозвішчаў яны не назвалі: маўляў, пачнуцца праследаванні.

Скардзіліся на тое, што селектарная сувязь у інтэрнаце №5 па вуліцы Лазо, 88 працуе толькі да трэцяга паверха, вахцёры часта груба паводзяць сябе, няма парадку ў інтэрнаце. А тут жа жывуць будучыя педагогі. Звярталіся ў вышэйшыя інстанцыі, у прыватнасці, да кіраўніцтва педагагічнага інстытута, але справы ў інтэрнаце не палепшыліся. І зноў нас прасілі дапамагчы. Прасілі аб самым элементарным — чуласці і ўважлівасці да тых, хто пражывае ў гэтым маладзёжным інтэрнаце, аб навядзенні тут належнага парадку. Хочацца думаць, што кіраўніцтва Віцебскага педагагічнага інстытута аб'ектыўна разбярэцца ў гэтай сітуацыі і расставіць усе кропкі над "і".

## Цяпло не любіць холаду

Менавіта так можна ахарактарызаваць сённяшнюю сітуацыю ў адносінах да цеплавой і электрычнай энергіі, да ўсіх энерганосьбітаў, якімі мы валодаем. Як бачым, зіма наступіла вельмі рана. Наперадзе яшчэ не адзін марозны месяц. А сітуацыя, якая склалася ў апошні час з пастаўкай расійскай нафты і газу, ніякіх суцяшальных перспектыў на бліжэйшае будучае пакуль не абяцае. Спадзявацца трэба толькі на саміх сябе. І гэта ў першую чаргу тычыцца спажыўцоў цеплавой і электрычнай энергіі, як кіраўнікоў арганізацый і прадпрыемстваў, так і кожнага з нас. Але далёка не ўсе гэта яшчэ ўсвядомілі, аб чым, дарэчы, і быў адзін са званкоў у час дзяжурства па службе зваротнай сувязі.

— Давялося мне днямі быць у паліклініцы, што па вуліцы М.Горкага, — пачала нашу размову жыхарка абласнога цэнтра І.С.Марчанка, — і крыўдна мне стала. Не берагуць тут цяпло. У дзвярных праёмах вялікія шчыліны. Ацяпляльныя батарэі на першым паверсе, што стаяць ля ўвахода, грэюць болей паветра на вуліцы, чым само памяшканне. Такое ўражанне, што тут проста нейкі прахадны двор, а не лячэбная ўстанова.

Ірына Сямёнаўна, гаворачы аб нядбайнасці, з якой тут адносяцца да захавання цяпла ў такі нялёгкі для нас час, з крыўдай заўважыла, што мы, як заўсёды, гаворым адно, а робім другое. І сапраўды, колькі ўжо заклікаў было і па радыё, і па тэлебачанні, і ў самых розных газетах аб тым, што сёлета, як ніколі, цяплу патрабуецца асобы клопат. А для гэтага неабходна ўцяпляць кватэры, службовыя і вытворчыя памяшканні, падвалы дамоў і г.д. А што на самай справе? Аказваецца, не ўсе заклапочаны. А потым будзем ківаць на Кебіча і Шушкевіча, самі не ўдарыўшы, як кажуць, палец аб палец.

## Чаго няма і што падабаецца?

Менавіта з такім пытаннем я звяртаўся да тых, хто на мінулым тыдні званіў па тэлефоне зваротнай сувязі. Здарылася так, што большасць чытачоў (хто званіў) задавальняе наша газета. Але былі і пытанні, і прапановы.

— Мне падабаецца, як у вашай газеце асвятляюцца пытанні палітычнага жыцця, — сказала І.С.Марчанка. — Я не камуніст, але падтрымліваю многія іх думкі. І наогул мне падабаецца аб'ектыўнасць газеты.

— "Віцебскі рабочы" — наша дамашняя газета, — заўважыла Л.Б.Аглушэвіч. — Я сумую без вашай газеты.

Дарэчы, Лідзія Барысаўна прасіла адказаць на некаторыя пытанні аб прыватызацыі, аб чым мы дамовіліся падрыхтаваць асобны матэрыял.

Т.В.Рабава прапанавала, каб мы рэгулярна давалі праз газету інфармацыю аб неспрыяльных днях. Студэнты, якія званілі з інтэрната №5, гаварылі, што ў газеце многа ўсялякай рэкламы, а вось аб'явы цепласетак, а таксама аб змяненні гарадскіх маршрутаў пачалі з'яўляцца рэдка.

Безумоўна, калектыў рэдакцыі пастараецца ўлічваць усе заўвагі і прапановы. А яны, дарэчы, да нас паступаюць і пісьмова. Але хацелася б, каб і самі чытачы былі больш актыўнымі, пісалі нам, дзяліліся меркаваннямі па вострых сацыяльных пытаннях, выказвалі свае асабістыя думкі па самых розных праблемах нашага сённяшняга жыцця.

А.ШПЫРКОЎ.

**На гэтым тыдні ў сераду і чацвер, з 17 да 18 гадзін, па тэлефоне 37-34-40 вас выслухае аглядальнік па пытаннях грамадска-палітычнага жыцця Анатоль Паўлавіч ШЫЛОВІЧ.**

